# Кнігарня


| ВЫДАЕЦЦА З 1988 г. | № 8/63 | Чэрвень 1994 г. | КОШТ НУМАРА: | па падпісцы 75 руб., у розніцу 150 руб. |
|---|---|---|---|---|






## З кнігамі Васіля Быкава

Як доўжыцца грымотная дарога
Паміж крыжоў і спапялёных хат,
Яшчэ й дасюль гукае вас трывога,
Таварыш маладзенькі лейтэнант.

Там небасхіл гарыць і не згарае,
Там дым яшчэ смярдзючы не апоўз.
І кіпцюры растуць у воўчай зграі,
І дыбіцца на шэрых крысах поўсць.

Ізноў туды — нібы душу на плаху?
Ізноў туды — да самых горкіх страт?
Там дзень і ноч змяшаліся ад жаху,
Таварыш пасівелы лейтэнант!

Як час ідзе... А бомбы зноў ірвуцца,
Шалее свет на грані закрыцця.
І кожны раз — пайсці, як не
вярнуцца,
І кожны раз — вяртацца з небыцця.

Ці не таму і не маўчыць сумленне,
І пішацца не проза, а дыктант.
...Схіляюцца ў пашане пакаленні
Прад вашым мужным лёсам,
лейтэнант.

Яўгенія ЯНІШЧЫЦ.

## З кнігамі Васіля БЫКАВА

мы ўсе — яго аднагодкі і людзі старэйшага ўзросту, і людзі маладога веку, і людзі зусім яшчэ юныя — мы ўсе ідзем дарогаю, якая вядзе да праўды. Але якая цяжкая дарога. Якая далёкая. І якая прага праўды насуперак усяму...

Васіль Уладзіміравіч, з днём нараджэння Вас. Віншуем ад імя ўсёй «Кнігарні» — супрацоўнікаў рэдакцыі, чытачоў газеты, яе верных аўтараў. Дзякуй Вам...

Таццяна ДЗМІТРУСЁВА.

# У слове родным — родная мелодыя



**У пачатку чэрвеня маладзечанцы (і не толькі маладзечанцы — усе на Беларусі) жылі сапраўдным святам музыкі, паэзіі, песні. Тры дні ў горадзе Маладзечна праходзіў Другі нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі. Беларускае тэлебачанне вяло прамыя трансляцыі асноўных канцэртаў фестывалю.**

**На яго адкрыцці — а гэта было ў Мінску — адбылася прэм'ера оперы-песні Ігара Паліводы «Матчын спеў» паводле твораў народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова, васьмідзесяцігадовы юбілей якога мы адзначалі ў гэтыя чэрвеньскія дні.**

**І зноў, як у мінулым годзе, эстафету падхоплівае Маладзечна. Гэты сонечны і малады горад сустракаў паэтаў, кампазітараў, музыкантаў, артыстаў. Усіх, хто любіць паэзію і песню, сустракаў фестываль.**

**На ўрачыстым адкрыцці фестывалю ад імя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь усіх прысутных шчыра павіншаваў са святам народны паэт Беларусі Ніл Сымонавіч Гілевіч. Міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь Анатоль Іванавіч Бутэвіч адзначыў тое вялікае пачуццё еднасці і дружбы, якое даюць песня і паэзія. Ён зачытаў прывітанне Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслава Францавіча Кебіча ўдзельнікам і гасцям Другога нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-94«.**

**Фестываль віталі старшыня Маладзечанскага гарсавета, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Генадзь Дзмітрыевіч Карпенка, а таксама ганаровы госць — обер-бургамістр нямецкага горада-пабраціма Эслінгена пан Ульрых Бауэр.**

**І загучалі на ўсю Беларусь Песня і Паэзія...**

**Вячаслаў Францавіч КЕБІЧ, Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь: — Песня — гэта і летапіс народнага жыцця, гэта спадзяванні і мары людзей. Гэта і нацыянальны характар.**

МЫ ЗНОЎ, як і ў мінулым годзе, ідзем па вуліцах гэтага сонечнага і маладога горада і радуемся людзям, іхнім шчырым усмешкам, іхняму святочнаму настрою.

«Дзень добры, Маладзечна! Дзень добры, фестываль!»

Нават надвор'е — увесь апошні тыдзень тут ішлі дажджы — здагадалася падарыць людзям сонейка і цяпло.

На вуліцы Прытыцкага самадзейныя мастакі выставілі свае палотны. Невялікі куточак, а мы — быццам у мастацкай галерэі. Спыняемся, глядзім... Старая царква... Вятрак на ўскрайку вёскі... Нацюрморты, пейзажы... Дзіўныя, казачнага хараства, краявіды.

І разумеем, што так перанесці на палотны свае пачуцці, свой погляд на свет, могуць толькі ўлюбёныя, асобага таленту людзі. Такія, як мастакі Яўген Антоненкаў, Вацлаў Сакалоўскі, Кастусь Люсцібер, Уладзімір Кірылаў, Уладзімір Балебус, Алег Банцыраў, з якімі мы тут пазнаёміліся.

**Ніл Сымонавіч ГІЛЕВІЧ, народны паэт, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь:**

**— Мы верым, што лёс беларускага народа і яго жыццё будуць лепшымі. Дапамогуць у гэтым музыка і паэзія. Яны даюць нам упэўненасць, натхнёнасць і плён.**

(Працяг на 3-й старонцы).

**НА ЗДЫМКАХ:**

**Члены журы фестывалю: заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі скульптар Іван МІСКО, народны артыст Рэспублікі Беларусь Віктар ВУЯЧЫЧ (старшыня журы), народны артыст Рэспублікі Беларусь Анатоль ЯРМОЛЕНКА і паэт Уладзімір КАРЫЗНА.**

**II нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «МАЛАДЗЕЧНА-94» адкрыты! Выступае пераможца фестывалю Наталля КУДРЫНА.**



## «БЕЛАРУСКАЯ КНІГА-94»

21 чэрвеня ў выставачнай зале Дома кнігі адбылася чарговая выстаўка «Беларуская кніга-94». На ёй была прадстаўлена літаратура, якая выпушчана ўвогуле ў рэспубліцы за май бягучага года.

Адкрыў выстаўку начальнік аддзела ўпраўлення выдавецкай і паліграфічнай дзейнасці Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь Станіслаў Канстанцінавіч Палякоў.

Ён паведаміў прысутным — а гэта былі кіраўнікі і супрацоўнікі выдавецтваў, пісьменнікі, літаратары, журналісты, аматары кнігі — што ўсяго ў маі выдадзена 248 назваў кніг агульным тыражом 5 млн. 892,4 тысячы экземпляраў, аб'ёмам 107,4 млн. друкаваных аркушаў-адбіткаў. Амаль чацвёртая частка гэтай літаратуры, у першую чаргу сацыяльна значнай, выпушчана дзяржаўнымі выдавецтвамі. Могуць зацікавіць чытача асобныя кнігі выдаючых арганізацый, якіх зараз зарэгістравана ў Рэспубліцы Беларусь больш за 800.

На развіцці галіны адмоўна адбілася апошняе падаражанне паперы. З-за высокай цаны на яе і дыфіцыту на іншыя паліграфматэрыялы некалькі заказаў так і засталіся не выкананымі, перанесены на наступны месяц, што парушае рытм работы паліграфічных прадпрыемстваў, а галоўнае, не дазваляе своечасова напаўняць кніжны рынак неабходнай для насельніцтва літаратурай.

— І ўсё-такі, — сказаў Станіслаў Канстанцінавіч, — ёсць пэўныя набыткі. Выпуск сацыяльна значнай літаратуры для дзяржаўных патрэб больш шырока прадстаўлены па жанрах і відах. Гэта гістарычная, даведачная, навукова-пазнавальная, дзіцячая, краязнаўчая і іншая літаратура. Лепшыя паказчыкі забяспечылі выдавецтвы Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, «Беларусь» і «Універсітэцкае».

Найбольш цікавыя выданні, якія выйшлі ў маі, гэта зборнік «Из тьмы веков светлеющие лики» («Беларусь»), К. І. Тарасаў «Памяць пра легенды» («Полымя»), «Минск. Исторический очерк» («Універсітэцкае»). Да 50-годдзя вызвалення Беларусі выдадзены: «Памяць. Рагачоўскі раён» («БелЭн»), М. І. Тараненка «Железные солдаты» («Навука і тэхніка»), зборнік «Самы галоўны ўрок («Народная асвета»), святочныя паштоўкі («Беларусь»).

У рамках выставы адбылася прэзентацыя кнігі Кастуся Тарасава «Памяць пра легенды», якая выйшла ў выдавецтве «Полымя». Пра аўтара і яго цікавую кнігу расказалі загадчыца рэдакцыі літаратуры па краязнаўству выдавецтва «Полымя» Людміла Іванаўна Круглова і галоўны рэдактар выдавецтва Мікалай Канстанцінавіч Іваноў.

30 чэрвеня у канферэнц-зале — Дома кнігі адбылася прэс-канферэнцыя для прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі.

У выставачнай зале ўрачыста адкрылася кніжная выстаўка

**«СТАРОНКІ МУЖНАСЦІ І СЛАВЫ»,**

прысвечаная 50-годдзю вызвалення Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў.

На адкрыцці выстаўкі выступілі міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь А. І. Бутэвіч, пісьменнікі, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны.

Выстаўка будзе адкрыта для наведвальнікаў з 10 да 18 гадзін і прадоўжыцца па 8 ліпеня. На ёй адбудуцца сустрэчы з пісьменнікамі, удзельнікамі вызвалення Беларусі і партызанскага руху, пройдуць прэзентацыі новых выданняў.

# СІГНАЛЬНЫЯ ЭКЗЕМПЛЯРЫ

У СПІС УКЛЮЧАНЫ КНІГІ, СІГНАЛЫ ЯКІХ ПАСТУПІЛІ ЗА АПОШНІ ЧАС У НАЦЫЯНАЛЬНУЮ КНІЖНУЮ ПАЛАТУ БЕЛАРУСІ

## ГРАМАДСКІЯ НАВУКІ. ГІСТОРЫЯ

БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ: Бібліягр. слоўн. у 6 т. Т. 3. Івашын-Кучар / Ін-т літ. імя Я. Купалы АН Рэспуб. Беларусь, Беларус. Энцыкл. [Рэдкал.: І. Э. Багдановіч і інш.]. — Мн.: БелЭн, 1994.— 584, [2] с.: партр. — (У пер.): Б. ц., 56000 экз.

ВСЕ О БЕЛОРУССКОМ ВАУЧЕРЕ: Закон о чеках: Коммент. Куда вложить ваучер. Вопрос-ответ / [Коммент. В. Давыденко]. — Мн.: НПЖ «Фінансы, учет, аудит», 1994. — 48 с. — Б. ц., 50 000 экз.

ЕРМАЛОВІЧ М. І. Старажытная Беларусь: Вілен. перыяд: [Гіст. нарыс]. — Мн.: Выд. цэнтр «Бацькаўшчына»: МП «Бесядзь», 1994. — 89, [2] с. Б. ц., 25 000 экз.

КАНСТЫТУЦЫЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ: Прынята на трынаццатай сес. Вярхоўнага Савета Рэсп. Беларусь дванаццатага склікання 15 сак. 1994 г. — Мн.: Полымя, 1994. — 28, [2] с. — Б. ц., 100 000 экз.

ЛЫЧ Л. Беларуская нацыя і мова: Літ.-гіст. арт. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 276, [1] с. — (У пер.): Б. ц., 3000 экз.

ЛИКУМ А. Все обо всем: Попул. энцикл. для детей: [Пер. с англ.). — М.: Компания «Ключ-С» и др.; Мн.: Фирма «Валев», 1994. — (В пер.): Б. ц., 100 000 экз.

[Т.4 / Перевод с англ. В. А. Винокурцева и др.: Науч. ред. В. В. Славкин]. — 478, [1] с.: ил.

[Т. 5. / Перевод с англ. О. А. Бочурина и др.; Науч. ред. Б. М. Дроняев]. — 446, [1] с.: ил.

МИХАЙЛОВА-СТАНЮТА И. А., КОВАЛЕВ Л. А., ШУЛЕЙКО О. А. Оценка финансового состояния предприятия / Под ред. А. П. Моровой; Фонд фундам. исслед. Респуб. Беларусь. — Мн.: Навука і тэхніка, 1994. — 198, [1] с. — Б. ц., 5000 экз.

ПСІХІЧНАЕ РАЗВІЦЦЕ ДЗЯЦЕЙ: Кн. пра псіхалогію выхавання: Хрэстаматыя / [Склад. Я. Л. Каламінскі, Л. А. Панько; Пер. рукапіс на беларус. мову Б. В. Стральцоў]. — Мн.: Нар. асвета, 1994. — 215, [2] с., уключ. вокл.: іл. — Б. ц., 13 000 экз.

СУПРУН В. В. За смугою часу: (Даследаванні і меркаванні) / [Прадм. Г. Каханоўскага]. — Мн.: Полымя, 1994. — 142, [2] с.: іл. — Б. ц., 9000 экз.

ФАТЕЕВ В. С. Менеджмент и региональная политика за рубежом / Под ред. М. В. Никитенко; АН Беларуси. Ин-т экономики. — Мн.: Навука і тэхніка, 1994. — 212, [1] с.: ил. — Б. ц., 1000 экз.

ЧАРОПКА В. Імя ў летапісе: [Пра гіст. дзеячоў мінулага Беларусі / Прадм. А. М. Сідарэвіча]. — Мн.: Полымя, 1994. — 558, [1] с.: іл. — (У пер.): Б. ц., 30 000 экз.

ЮХО Я., ЕМЕЛЬЯНЧЫК У. «Нарадзіўся я ліцьвінам...»: Тадэвуш Касцюшка. — Мн.: Навука і тэхніка, 1994. — 66, [2] с., [9] л. іл., партр. — (Нашы славутыя землякі). — Б. ц., 13 000 экз.

## ФІЛАСОФІЯ. ПСІХАЛОГІЯ. РЭЛІГІЯ

БЛАВАТСКАЯ Е. П. Тайная Доктрина: Синтез науки, религии и философии. В. 2 т., [4кн.] т.2: Антропогенезис, кн. 2 / [Подгот. текста В. Э. Жигота; Пер. с англ. Е. И. Рерих]. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 461, [1] с. — (В пер.): Б. ц., 25 000 экз.

КНИГА ЖИЗНИ: Свод. текст четырех Евангелий Библии, изд. о-вом «Лайф Паблишер» в сотрудничестве с христиан. церквями СНГ. — Мн.: 000 «Белпринт», 1993. — 63, [1] с., [4] л.ил. — Б. ц., 575 000 экз.

МАК-ДАУЭЛЛ Д. Доказательства воскресения / [Пер. с англ. А. Сумеркин]. — Б. м.: Новая жизнь; Мн.: Корпорация «ПИКОРП», 1994. — 201, [12] с.: ил. — Б. ц., 100 100 экз.

СВЯТЫЕ ДРЕВНЕЙ РУСИ. — [Пинск: Пин. епархиал. упр., 1994.). — 71, [4] с.: ил. — Б. ц., 20 000 экз.

ХЕЙГИН К. Е. Божье лекарство. — Мн.: PICORP, 1993. — 32, [1] с., включ. обл. — Б. ц., 233 100 экз.

ХЕЙГИН Е. К. В. Нём. — Мн.: PICORT, 1993. — 32, [1] с., включ. обл. — Б. ц., 233 1000 экз.

ХЕЙГИН К. Е. Почему языки? — Мн.: PICORP, 1993. — 32, [1] с., включ. обл. — Б.ц., 233 100 экз.

## АДУКАЦЫЯ. МЕДЫЦЫНА. ТЭХНІКА

**БУЛКИН Ю. С. Раннедокембрийские гранитоиды Белорусской антеклизы: Состав. Классификация. Происхождение** / АН Беларуси. Ин-т геологии, геохимии и геофизики. — Мн.: ИГГиГ, 1993. — 137, [2] с.: черт. — Б. ц., 310 экз.

ВОДНЕЎ У. Т., НАВУМОВІЧ А. Ф., НАВУМОВІЧ Н. Ф. Малы матэматычны слоўнік. — Мн.: Універсітэцкае, 1994. — 142, [3] с., уключ. вокл.: чарц. — Б. ц., 18 350 экз.

ГЕОФИЗИЧЕСКИЕ МОДЕЛИ ЗЕМНОЙ КОРЫ БЕЛОРУССКО-ПРИБАЛТИЙСКОГО РЕГИОНА / [Г. И. Каратаев, И. В. Данкевич, И. К. Пашкевич и др.]; АН Беларуси. Ин-т геологии, геохимии и геофизики. — Мн.: Навука і тэхніка, 1993. — 187, [1] с.: черт. — Б. ц., (вып. дан. 480 р.), 310 экз.

КОЛЬЦЕВЫЕ СТРУКТУРЫ ТЕРРИТОРИИ БЕЛАРУСИ / [А. В. Матвеев, Л. Ф. Ажгиревич, Л. С. Вольская и др.]. АН Беларуси. Ин-т геологии, геохимии и геофизики. — Мн.: Навука і тэхніка, 1993. — 79, [2] с.: черт. — Б. ц., (вып. дан. 20 р.), 310 экз.

ПАСТУХОВА З. М. Целебные силы кумыса. — Мн.: Ураджай, 1994. — 86, [1] с. — Б. ц., 200 экз.

РАЦИОНАЛЬНОЕ ПРИРОДОПОЛЬЗОВАНИЕ БЕЛОРУССКОГО ПООЗЕРЬЯ / [В. С. Аношко, М. Н. Брилевский, В. М. Яцухно и др.]; Ком. экологии Рес. Беларусь и др., — Мн.: ИГГ и Г., 1993. — 202 с. — Б. ц., 310 экз.

СОТСКОВ Ю. Н., СТРУСЕВИЧ В. В., ТАНАЕВ В. С. Математические модели и методы календарного планирования: [Учеб. пособие для студентов мат. спец. вузов]. — Мн.: Універсітэцкае, 1994. — 230, [1] с.: черт. — (В пер.): Б. ц., 700 экз.

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА. ДАМАВОДСТВА

ДРОЗД А. К. Создание народного предприятия: Метод. пособие. — Мн.: Б. и., 1993. — 116 с. — Б. ц., 3000 экз.

ПАСТУХОВА З. М. Промышленная переработка молока: [Учеб. пособие для студентов с-х. вузов по спец. «Хранение и переработка с-х. продукции»]. — Мн.: Ураджай, 1994. — 206, [1] с. — (Учебные пособия для сельскохозяйственных высших учебных заведений). — Б. ц., 1000 экз.

ПАЎЛАЎ С. Я. Чалавек: прадпрымальнасць, кіраванне, рынак. — Мн.: Ураджай, 1994. — 142, [1] с. — Б. ц., 2000 экз.

ТОМАТЫ / А. А. Аутко, Ф. И. Анцугай, Ю. М. Забара и др.]; Под ред. А. А. Аутко. — Мн.: Ураджай, 1994. — 62, [2] с.: ил. — (Дело мастера боится). — Б. ц., 40 000 экз.

УГИНЧЕНЕ Я. В. БАБУШКИНЫ УГОЩЕНИЯ: [Пер. с литовс. Э. И. Артисюк]. — Мн.: Полымя, 1994. — 254, [1] с. — Б. ц., 1000 000 экз.

## МОВАЗНАЎСТВА. МАСТАЦТВА. ФІЛАЛОГІЯ

АЗГУР З. І. Тое, што помніцца...: Аповяд пра час, пра людзей і пра мастацтва. Кн. 5. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 123, [2] с.: партр. — (У пер.): Б. ц., 2100 экз.

БЕЛАРУСКАЯ МОВА: Практ. дапам. для абітурыентаў / (Э. Д. Блінава, Н. В. Гаўрош, М. Ц. Кавалёва і інш.]. — 2-е выд., дапрац. і дап. — Мн.: Выш шк., 1994. — 238, [1] с. — Б. ц., 50 000 экз.

ЗЕЛЕНИН К. И. Деловые контакты: Рус-нем. разговорник. — Мн.: Выш. шк., 1994. — 298, [1] с. — (В пер.): Б. ц., 50 000 экз.

НА СУД ГІСТОРЫІ: Успаміны. Дыялогі / [Уклад., прадм. і звесткі пра аўт. Б. І. Сачанкі; Тэкстал. падрыхт. С. Б. Сачанка]. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 302, [1] с. — (У пер.): Б. ц., 7200 экз.

ПАЎЛЮК БАГРЫМ / [уклад. В. Ляшук, А. Майсейчык]; Пад рэд. А. Сабалеўскага; Прадм. А. Сабалеўскага]. — Мн.: Навука і тэхніка, 1994. . 253, [3] с. — (У пер.): Б. ц., 13200 экз.

ШУБА П. П. Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў. — Мн.: Нар. асвета, 1993. — 165, [2] с. — 930 р., 29700 экз.

ЯНУШКЕВІЧ Я. Я. У прадчуванні знаходак: З адной вандроўкі ў архівы Варшавы, Вроцлава, Кракава. — Мн.: Полымя, 1994. — 93, [2] с.: іл. партр. — (Бібліятэка часопіса «Маладосць», № 3 (69). — Б. ц., (вып. дан. цана па падпісцы 50 р., у розніцу 75 р.), 1920 экз.

## МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

### БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

БРЫЛЬ Я. Пішу як жыву: Аповесць, апавяданні, мініяцюры, эсэ. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 363 с. — (У пер.): Б. ц., 8800 экз.

ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ '93 /' 94: Новыя вершы. З літ. спадчыны. Пра паэзію і паэтаў. Па дарозе на Парнас / [Склад. В. А. Шніп, Рэдкал.: В. Жуковіч (Гал. рэд.) і інш.: Маст. М. Р. Казлоў). — Мн.: Маст. літ., 1993. — (вып. дан. 1994) — 215 с.: іл. — Б. ц., 3000 экз.

ЗЭКАЎ А. М. Дуэль: Літ. пароды, байкі. — Мн.: Выд. Расолька, 1994. — 91, [4] с.: партр. — Б. ц., 5000 экз.

КАПУСЦІН А. Юбілейны торт: Гумарэскі / Маст. афармл. П. Козіча. — Мн.: Б. в., 1994. — 31 с.: іл. — (Бібліятэка «Вожыка»; № 2(224)). — Б. ц., 5000 экз.

ПАЎЛАЎ У. А. Што было на Беларусі: Кн. паэзіі. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 174, [1] с.: іл. — Б. ц., 2200 экз.

ЧЫГРЫНАЎ І. Г. Паміж сонцам і месяцам. Роздум над жыццём, культурай і літ. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 430, [1] с. — (У пер.): Б. ц., 3000 экз.

### РУСКАМОЎНЫЯ ВЫДАННІ

АЖГИРЕВИЧ Л. Ф. Три минуты надежды...: Избр. стихотворения. — Мн.: ИГГ и Г., 1993. — 127, [1] с. — Б. ц., 1000 экз.

БЕЛЫЙ А. И. Тридцать второе августа: Лирика. — Барановичи: Б. н., 1994. — 54, [1] с.: ил. — Б. ц., 10 000 экз.

СОРОКО В. И. «Витебское дело» или двуликая Фемида: Докум. повесть / [Ил. В. Шаркова]. — Мн.: Агропредприятие «Ранет-92»; 1994. — 410, [3] с., [2] л. ил.: ил. — (В пер.): Б. ц., 50 000 экз.

## Даты. Імёны. Падзеі

**1 ЛІПЕНЯ — 1914 — у Мінску выдаваўся літаратурны навуковы ілюстраваны часопіс «Лучынка».**

**— 425 гадоў назад (1569) была заключана Люблінская унія — аб'яднанне Польскага каралеўства і Вялікага княства Літоўскага ў федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую.**

**— 190 гадоў з дня нараджэння Жорж Санд (сапр. Аўрора Дзюпен, па мужу Дзюдэван; 1804—1876), французскай пісьменніцы.**

**3 ЛІПЕНЯ — 50-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

**4 ЛІПЕНЯ — 1214 — Першыя летапісныя звесткі пра Рэчыцу.**

**— 90 гадоў з дня нараджэння А. А. Альшэўскага (1904—1937), дзеяча рэвалюцыянага руху ў Заходняй Беларусі, публіцыста.**

**6 ЛІПЕНЯ — 130 гадоў з дня нараджэння А. М. Гарэцкай (1864—1935), беларускай спявачкі, маці М. І. Гарэцкага.**

**7 ЛІПЕНЯ — 125 гадоў з дня нараджэння Л. І. Вітан-Дубейкаўскага (1869—1940), беларускага паэта, архітэктара.**

**— 70 гадоў з дня нараджэння (1924) Я. І. Курто, беларускага пісьменніка.**

**11 ЛІПЕНЯ — 1159 — Першыя летапісныя звесткі пра Чачэрск.**

**— 60 гадоў з дня нараджэння (1934) В. Л. Вуячыча, народнага артыста Беларусі.**

**12 ЛІПЕНЯ — 90 гадоў з дня нараджэння А. І. Александровіча (1904—1947), беларускага літаратуразнаўца і педагога.**

**13 ЛІПЕНЯ — 100 гадоў з дня нараджэння І. Э. Бабеля (1894—1941), рускага пісьменніка.**

**20 ЛІПЕНЯ — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ ШАХМАТ.**

**— 690 гадоў з дня нараджэння Франчэска Петраркі (1304—1374), італьянскага паэта.**

**— 70 гадоў з дня нараджэння (1924) У. В. Анічэнкі, беларускага мовазнаўца.**

**22 ЛІПЕНЯ — 75 гадоў з дня нараджэння (1919) М. Г. Булахава, беларускага мовазнаўца.**

**27 ЛІПЕНЯ — ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

**28 ЛІПЕНЯ — 190 гадоў з дня нараджэння Людвіка Андрэаса Феербаха (1804—1872), нямецкага філосафа.**

**— 170 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Дзюма (Дзюма-сын; 1824—1895), французскага пісьменніка.**

**31 ЛІПЕНЯ — 75 гадоў з дня нараджэння (1919) С. І. Кухарава, беларускага пісьменніка.**

НОВЫЯ ВЫДАННІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КНІЖНАЙ ПАЛАТЫ БЕЛАРУСІ

# Першыя выдавецкія стандарты Рэспублікі Беларусь



У 1993 годзе ў Нацыянальнай кніжнай палаце Беларусі створана Галоўная служба па стандарцізацыі ў галіне паліграфіі, выдавецкай справы і кніжнага гандлю. Яна з'яўляецца адказнай за распрацоўку, укараненне стандартаў і ажыццяўляе кантроль за выкананнем патрабаванняў нарматыўна-рэгламентуючай дакументацыі, якая дзейнічае ў галіне.

На сёння ўведзены ў дзеянне і выйшлі з друку першыя беларускія стандарты:

**СТБ 7.53-93 ВЫДАННІ. МІЖНАРОДНАЯ СТАНДАРТНАЯ НУМАРАЦЫЯ КНІГ.**

Стандарт прызначаны для ідэнтыфікацыі кніг і брашур, а таксама іх выдаўцоў ( установ, арганізацый альбо іншых юрыдычных асоб, якія ажыццяўляюць выдавецкую дзейнасць).

Прымяняецца стандарт незалежна ад спосабу ўзнаўлення, распаўсюджвання, тыражу, аб'ёму кнігі і ўстанаўлівае структуру, склад, форму напісання, размяшчэнне ў кнізе Міжнароднага стандартнага кніжнага нумара (ISBN).

У стандарце даецца пералік кніг, якія не падлягаюць міжнароднай стандартнай нумарацыі кніг.

**СТБ 7.60-93 ВЫДАННІ. АСНОЎНЫЯ ВІДЫ. ТЭРМІНЫ І АЗНАЧЭННІ.**

Стандарт налічвае 125 тэрмінаў, сярод якіх ёсць шмат тых, што прыйшлі ў выдавецкую справу ў апошні час. Напрыклад, комікс, бестселер, дайджэст і інш. Дэфініцыя тэрмінаў падаецца на беларускай мове.

У якасці даведачных даных прыведзены іншамоўныя эквіваленты стандартызаваных тэрмінаў на рускай, нямецкай, англійскай і французскай мовах. Стандарт суправаджаецца алфавітным паказальнікам тэрмінаў на гэтых мовах.

**По пытання набыцця гэтых выданняў зацікаўленыя асобы, выдавецкія арганізацыі могуць звяртацца па адрасу: 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Пакой 305. Тэлефон: 23-73-63.**



# У слове родным — родная мелодыя









**(Працяг. Пачатак на 1-й старонцы).**

Багатая на таленты маладзечанская зямля!

У Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі вучыліся спявак Міхась Забэйда-Суміцкі, мовазнаўца Язэп Лёсік, паэт Міхась Чарот, пісьменнік Касьян Вясёлы, празаік Лявон Савёнак, грамадскі дзеяч Сымон Рак-Міхайлоўскі... Маладзечанцы ганарацца талентам сваіх землякоў салістак Беларускага тэатра оперы і балету Вольгі Цішынай і Людмілы Колас, кампазітараў Алега Елісеенкава і Зміцера Еўтуховіча, спевакоў Юрыя Антонава і Аляксандра Ціхановіча.

У горадзе і раёне створаны дзесяткі фальклорных музычных калектываў, літаратурных гуртоў і аб'яднанняў. Пра некаторыя з іх мы ўжо расказвалі ў мінулых рэпартажах з Маладзечна. І сёлета прыемна было сустрэцца з людзьмі, іх творчасцю на сцэнічных пляцоўках. Сёлета сваё мастацтва ў такія насычаныя фестывальнай праграмай дні дэманстравалі сямейны фальклорны ансамбль Сальнікаў з Радашковіч, народны фальклорны ансамбль «Маркаўчанка» Маркаўскага СДК, узорны ансамбль песні і танца «Хажаўлянка» Хажоўскага СДК, вакальны жаночы калектыў «Веснянка» Цюрлёўскага СДК, народны хор ветэранаў вайны і працы «Надзея» Дома культуры чыгуначнікаў, творчыя калектывы дзіцячай музычнай школы: ансамбль народнай музыкі «Пацешкі» і ансамбль народнай песні «Харашуха», фальклорны калектыў музычнага вучылішча «Калядкі», шмат іншых калектываў. Шчыра прымалі гледачы народны ансамбль песні і танца «Беларусачка» Маладзечанскага вытворчага аб'яднання «Электрамодуль» (мастацкі кіраўнік Марыя Міхайлаўна Сушко) і фальклорны ансабль «Крынічка» гарадскога Цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў. Мастацкі кіраўнік «Крынічкі» Раіса Рыгораўна Калыска піша музыку, а салістка ансамбля (яна ж і кіраўнік гарадскога дзіцячага літаратурнага аб'яднання «Узлёт») Таісія Іванаўна Трафімава складае вершы. Так нараджаюцца новыя песні.

І яшчэ адна важная падзея адбылася ў дні фестывалю.

У суботу, 11 чэрвеня, у самым цэнтры горада сабраліся вернікі-католікі. У 12 гадзін ва ўрачыстай абстаноўцы Яго Праасвяшчэнства Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі архіепіскап Казімеж Свёнтак заклаў і асвяціў краевугольны камень на будаўніцтве ў Маладзечна рымска-каталіцкага касцёла Святога Юзафа — апекуна сямейнага ачага.

— Хутка ў нашых вернікаў з'явіцца свой новы Храм! — дзеліцца радасцю пробач парафіі, ксёндз-дэкан Эдмунд Даўгіловіч-Навіцкі.

**Анатоль Іванавіч БУТЭВІЧ, міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь:**

**— У духоўным чалавечым існаванні ёсць адзін пачатак — культура. Яна — усё, і яна — над усім. І над інфармацыяй, і над палітыкай, і над дзяржаўным будаўніцтвам, і над уладай... І адначасова разам з імі. Павінна так быць. Хацелі б мы ці не хацелі, а культура пранізвае ўсе поры жыцця.**

**НА ЗДЫМКАХ:**

**Паэт Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК; паэт Алесь ПІСЬМЯНКОЎ і кампазітар Алег ЧЫРКУН; паэт Уладзімір ПЕЦЮКЕВІЧ і кампазітар Зміцер ДАЎГАЛЁЎ; паэт Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.**

**Урачыстасці, прысвечаныя асвячэнню краевугольнага каменя на будаўніцтве ў Маладзечна рымска-каталіцкага касцёла Святога Юзафа. У цэнтры — Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі архіепіскап Казімеж СВЁНТАК.**

**Кампазітар Валянціна СЯРЫХ і юныя ўдзельнікі ансамбля «ЗВАНОЧКІ» Аня МАРХЕЛЬ, Міша РАШЧЭНЯ, Аня ЗАНЬКО і Алёна СНЫТКО.**

**Знаёмцеся: фальклорны калектыў «КРЫНІЧКА» Маладзечанскага гарадскога Цэнтра эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў.**

**Удзельніцы народнага ансамбля песні і танца «БЕЛАРУСАЧКА» Маладзечанскага вытворчага аб'яднання «ЭЛЕКТРАМОДУЛЬ» — Аня СПЕТАЛЮН, Ларыса СЫСУН і Аксана ВЕРАЦЕЙКА.**





А ЦЯПЕР перанясемся на гарадскі стадыён, дзе ішлі канцэрты асноўнай праграмы фестывалю. Зноў мы радуемся творчаму майстэрству народных артыстаў Беларусі: дыктара Беларускага тэлебачання Зінаіды Бандарэнка, мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь Міхася Фінберга, спевакоў Віктара Вуячыча, Анатоля Ярмоленкі...

Феерверк рознакаляровых агнёў... Святочны гала-канцэрт... Гэта незабываецца...

Каля 150 песень прывезлі на фестываль паэты і кампазітары. Чатырнаццаць маладых выканаўцаў беларускай эстраднай песні прыехалі з усёй рэспублікі ў Маладзечна на трэці тур конкурсу «Дапамажы нам, Фартуна». І мы раскажам, каму ж з іх Фартуна сапраўды дапамагла.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК, паэт:**

**— Нацыянальны фестываль — гэта не толькі эстраднае шоу, але і гімн паэтычнаму беларускаму слову.**

І мы чулі гэтае звонкае і мілагучнае, пяшчотнае і лірычнае, паэтычнае беларускае слова.

«У СЛОВЕ РОДНЫМ — РОДНАЯ МЕЛОДЫЯ» — гэты канцэрт сучаснай беларускай паэзіі і эстраднай песні сабраў паэтаў-песеннікаў Уладзіміра Карызну, Алеся Пісьмянкова, Уладзіміра Някляева, Леаніда Дранько-Майсюка, Валянціну Аколаву, Алеся Бадака, Леаніда Пранчака, Уладзіміра Мазго, Уладзіміра Пецюкевіча...

І нам хочацца прывесці прыклады добрай творчай працы паэтаў і кампазітараў: Уладзіміра Карызны і Леаніда Захлеўнага, Алеся Пісьмянкова і Алега Чыркуна, Уладзіміра Някляева і Валерыя Іванова, Ніны Загорскай і Валянціны Сярых, Леаніда Пранчака і Зміцера Еўтуховіча, Уладзіміра Мазго і Паўла Яроменкі, Алеся Бадака і Алега Елісеенкава, Мікалая Трацціякова і Эдуарда Ханка...

Добрая творчая дружба звязвае і паэта Уладзіміра Пецюкевіча і кампазітара Зміцера Даўгалёва. Пяць новых іх песень гучала ў праграме фестывалю.

Памятаеце песню. «Зараніцы — зараніцы»?..

**А навокал — анікога**<br>
**Размаўляем толькі з Богам**<br>
**Ды з найсамай дзіўнай Боскаю красой:**<br>
**— Зараніцы-зараніцы,**<br>
**Нам дарогу блаславіце**<br>
**Да высокай таямніцы незямной.**

Гэтая песня Уладзіміра Пецюкевіча і Зміцера Даўгалёва гучала на фестывалі ў выкананні Іны Афанасьевай і Валерыя Дайнекі. Як і іншыя, яна кранае нас і цудоўным паэтычным малюнкам і свежай, незямной мелодыяй...

Прыемным сюрпрызам фестывалю быў удзел у ім самых юных артыстаў з дзіцячага вакальна-эстраднага ансамбля «Званочкі» (г. Мінск). Яны выканалі школьны шлягер «Не хітруй» (музыка кампазітара Валянціны Сярых, словы Барыса Асмалоўскага).

Дарэчы, гэта яна, Валянціна Васільеўна Сярых з'яўляецца мастацкім кіраўніком «Званочкаў». Шчыры, улюбёны ў дзяцей кампазітар і педагог, яна адкрывае новыя таленты, вучыць дзяцей любіць музыку і песню. Нездарма ансамбль «Званочкі» ведаюць у Польшчы, Германіі, Італіі. Дарэчы, у Ватыкане сам Папа Рымскі Іаан Павел II благаславіў іх за цудоўныя спевы на італьянскай мове.

**УРАЧЫСТЫ ГАЛА-КАНЦЭРТ... Аб'яўляюцца імёны пераможцаў. Рашэннем журы Гран-пры фестывалю прысуджаецца семнаццацігадовай школьніцы з Магілёва Наталлі Кудрынай. Яе голас пакарыў сэрцы слухачоў. Кампанія «Нов і К» прадставіла ёй у падарунак легкавы аўтамабіль.**

**Званні лаўрэатаў і першыя прэміі атрымалі таксама: Наталля Тамела (Мінск) і Леанід Вайтовіч (Рэчыца).**

**Другія прэміі — Алена Літоўка, Ларыса Грыбалёва і Таццяна Воранава (усе з Віцебска).**

**Трэція прэміі — Ірына Дарафеева (Магілёў) і Таццяна Каліна (Камянец).**

**Арганізатары фестывалю і фундатары ўзнагародзілі іх каштоўнымі падарункамі.**

Хочацца пажадаць, каб і пераможцы конкурсу, і тыя, каму яшчэ не пашчасціла, ніколі не развіталіся з Паэзіяй і Песняй.

А песні, такія шчырыя і добрыя, яшчэ доўга, да самай начы гучалі над горадам.

**Сваё мастацтва паказалі госці фестывалю Тамара Гвардцытэлі і Юрый Антонаў, Віктар Вуячыч, Анатоль Ярмоленка і ансамбль «Сябры». Дзяржаўны акадэмічны народны хор Беларусі імя Г. І. Цітовіча пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхася Дрынеўскага, Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Якаў Навуменка і Аляксандр Саладуха, рок гурты «Палац», «Крама», «Новае неба», «Мроя».**

Дзякуй табе, Маладзечна!<br>
Да новых сустрэч, Фестываль!

**Леанід МІХАЙЛАЎ.**

Фота аўтара.





НАПЯРЭДАДНІ ЮБІЛЕЮ Васіля Уладзіміравіча Быкава Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры падрыхтаваў выставу «ВАСІЛЬ БЫКАЎ — АСОБА І ЧАС».

На яе адкрыццё сабраліся пісьменнікі, літаратары, дыпламаты і журналісты, людзі самых розных прафесій, якіх аб'яднала адно — любоў і павага да народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.

**Салдат Вялікай Айчыннай. Змагар за праўду, свабоду, за незалежную Беларусь. Сапраўдны сын сваёй Бацькаўшчыны. Пісьменнік, слова якога, мужнае, смелае і пранікнёнае, бярэ за сэрца, пранізвае душу сілай свайго, неўміручага духу.**

**Мы вельмі рады, што ён сярод нас. Мы схіляем галаву прад талентам яго душы, яго шчырага сэрца.**

А сам, Васіль Уладзіміравіч, крыху стомлены і шчаслівы, прымае кветкі і святочныя віншаванні.

Адкрыў урачыстасць дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Леанід Тарасавіч Хадкевіч. Ен адзначыў, што такое для ўсіх нас творчасць і грамадская дзейнасць Васіля Быкава, сэнс якой — быць барацьбітом за свой народ, сваю Беларусь.

Шчырыя словы павагі і ўдзячнасці выказалі пісьменнікі Рыгор Барадулін, Васіль Зуёнак, Генадзь Бураўкін, народны дэпутат Зянон Пазьняк, старшыня Мінскага гарадскога савета народных дэпутатаў Аляксандр Міхайлавіч Герасіменка, старшыня Беларускага таварыства па культурнай сувязі з замежнымі краінамі Арсен Мікалаевіч Ваніцкі, замежныя госці.

Выступіў на сустрэчы і дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Серафім Антонавіч Андраюк.

**— Васіль Быкаў, — сказаў ён, — гэта чалавек, надзелены высокай духоўнасцю, высокім талентам. Іншым ён і не можа быць.**

С. А. Андраюк расказаў, што да 70-гадовага юбілею выдавецтва выпусціла шосты, том Збору твораў Васіля Быкава. І падарыў пісьменніку яго кнігу.

«ЯГО СЛОВА ЧУЕ ЎВЕСЬ СВЕТ» — так называецца першая зала экспазіцыі выставы. Мы бачым творы Васіля Быкава, выдадзеныя на самых розных мовах свету. І разумеем — так высока ацэньваюць за мяжою талент сапраўды народнага пісьменніка.

**«Васіль Быкаў — сусветна вядомы пісьменнік. Яго аповесці друкаваліся на дзесяткаў моў у краінах Еўропы, Амерыкі, Азіі, Афрыкі. У яго дзесяткі мільёнаў чытачоў і прыхільнікаў на ўсёй планеце. Сёння Быкаў — гордасць беларускага народа, усёй літаратуры».**



Камадзір узвода Васіль БЫКАЎ. 1945 год.



Васіль БЫКАЎ і Рыгор БАРАДУЛІН. Мінск. 19 чэрвеня 1994 года.

# Васіль БЫКАЎ — асоба і час

**Пімен Панчанка. «Высокі бераг».**

Знаёмімся з экранізацыямі твораў пісьменніка. На здымках — кадры з фільмаў «Трэцяя ракета» (1963), «Альпійская балада» (1966), «Узыходжанне», «Дажыць да світання» (1975), «Доўгія вёрсты вайны» (1976)... А ў памяці нашай ажываюць мужныя і смелыя героі Васіля Быкава.

«ЦАНА ПЕРАМОГІ» — гэта ўжо тэматычны напрамак другой залы, дзе мы бачым Васіля Быкава ў Вялікай Айчыннай вайне.

Вось ён, зусім малодзенькі курсант Саратаўскага пяхотнага вучылішча. Пасля заканчэння яго пайшоў на фронт. Як камандзір узвода аўтаматчыкаў і ўзвода палкавой, затым армейскай артылерыі, удзельнічаў у баях на 2-м і 3-м Украінскіх франтах. Быў двойчы паранены. Асабліва цяжкае раненне атрымаў у баі пад В. Севярынкаю Кіравагградскай вобласці.

Камандаванне рашыла, што ён загінуў у хаце, па якой прайшоў фашысцкі танк... Яго імя было высечана на мемарыяльнай пліце сярод соцен імён загінуўшых герояў, а маці, Ганна Рыгораўна, аплаківала пахаванку на сына.

Але ж ён выжыў! Знясілены, акрываўлены, страціўшы прытомнасць, ён усё ж такі паспеў выпаўзці амаль з пекла.

Мы бачым на здымках баявых сяброў Васіля Быкава.

З дзеючай арміяй В. Быкаў прайшоў Румынію, Венгрыю, Югаславію, Аўстрыю... Доўгія вёрсты вайны...

У цэнтры залы — шынель, прашыты кулямі і прабіты асколкамі, пісьмы з фронту да родных.

**«У мяне быў шынель, у якім я закончыў вайну, увесь прапалены, у некалькіх месцах прастрэлены, прабіты асколкамі. Па сутнасці, гэта чысцейшая выпадковасць, што тыя кулі і асколкі мяне не кранулі — большасць жа маіх таварышаў па Саратаўскім пяхотным вучылішчы з вайны не вярнуліся. Але і жменька тых, што засталіся ў жывых, прыйшлі з раненнямі і кантузіямі...»**

**В. Быкаў. «Праўдай адзінай».**

ЛЕС ЗАХАВАЎ нам Васіля Быкава, каб ён расказаў нам усю суровую праўду пра вайну. Пра людзей, з якімі ён ваяваў. І якія ўвасобіліся ў характарах яго герояў, у іх учынках, у іх жыццёвым выбары: «як жыць», «як быць Чалавекам?»

У экстрэмальных сітуацыях чалавек заўсёды ўспамінае свой дом, сваіх бацькоў і родных, сваё дзяцінства...

**«Я сябе помню, можа з гадоў пяці. І першыя ўражанні звязаны з возерам... Трэба прайсці поле, лён, пасля аўражыну, выйсці на гару, і з гары адкрываецца возера...**

**Самае паэтычнае, самае рамантычнае маё ўспрыняцце свету, самае першае і не толькі першае, ішло ад гэтага возера...» В. Быкаў.**

Мы бачым хлопчыка, які глядзіць на дом ля сіняга возера (Васіль Быкаў нарадзіўся ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна), бачым яго бацькоў, Ганну Рыгораўну і Уладзіміра Хведаравіча, яго родных і блізкіх.

А вось і эцюды Быкавамастака — «Бацькоўская хата» і «Лужына»... Не будзем забываць, што вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы.

Пасля вайны ён служыў на Украіне, у Беларусі, на Далёкім Усходзе. Пасля дэмабілізацыі працаваў мастаком у гродзенскіх мастацкіх майстэрнях, у рэдакцыі абласной газеты «Гродзенская праўда».

Першыя апавяданні з ілюстрацыямі аўтара выйшлі ў Зборніку твораў пісьменнікаў Гродзенскай вобласці ў 1958 годзе. А ў 1960-м — яго першая аповесць «Жураўліны крык».

«Трэцяя ракета», «Здрада», «Альпійская балада», «Сотнікаў», «Абеліск», «Пайсці і не вярнуцца», «Знак бяды»... У кожным новым творы — адказы на вельмі складаныя пытанні жыцця.

Данесці да чытача голас праўды, суровай праўды ваеннай пары, праўды пра каханне і вернасць, пра сумленнасць і здраду, пра сэнс самога жыцця пад час самых жорсткіх выпрабаванняў — менавіта гэтым пранітавана ўся творчасць Васіля Быкава.

Ен шмат піша, стараецца найпаўней расказаць нам ПРАЎДУ. Што ні старонка — то боль за лёс сваіх герояў, якія не вярнуліся з вайны, радасць за тых, хто прыйшоў з Перамогай.

**«Цяпер падлічана, што з пакалення 1922-24 гадоў нараджэння ўцалела на гэтай вайне тры чалавекі з сотні. Астатнія ляжаць у братніх магілах, раскіданых на вялізнай прасторы ад Волгі да Эльбы. Трэба думаць, не надта інакш выглядае гэта статыстыка і на нямецкім баку. Молах крывавай вайны сабраў багатыя ахвяры з абодвух народаў».**

**В. Быкаў. «Мёртвым — не баліць, баліць — жывым», «Неман», 1992, № 1.**

Няпроста яму пішацца. Няпроста жывецца. І вось новая аповесць «Мёртвым не баліць», якая выйшла спачатку ў часопісе «Маладосць», а потым у «Новом мире». Потым яна была ўвогуле забаронена.

«Мёртвым не баліць» аповесць, можна сказаць, аўтабіяграфічная. Колькі ж можна хаваць праўду жыцця? За гэтую праўду аўтар прыме папрокі ў крытычных рэцэнзіях, артыкулах так званых «ура-патрыётаў».

У ТРЭЦЯЙ ЗАЛЕ ЭКСПАЗІЦЫІ «На крыжах» мы бачым за кратамі гранкі забароненай у свой час аповесці «Мёртвым не баліць», якая павінна была ўвайсці у 3-ці том чатырохтомнага выдання Збору твораў пісьменніка ў 1980 годзе, і нам становіцаа балюча... Чытаем вытрымкі «Из плана мероприятий ЦК КПБ по работе с молодежными самодеятельными объединениями» ад 18.10.1988 г.: «Разработать систему общения с В. Быковым»...

Яму было цяжка. Але яго ведаў ужо ўвесь свет. І ніякая сіла той улады не магла заглушыць голас праўды.

Яму пісалі Аляксандр Твардоўскі, Аляксандр Салжаніцын, Віктар Някрасаў, Чынгіз Айтматаў, Сяргей Смірноў... Вядомыя людзі з усёй планеты...

Яму пісалі, яго падтрымлівалі. «Усё мінецца, а праўда застанецца» — пісаў Аляксандр Твардоўскі ў віншавальным лісце творчага калектыва «Нового мира».

Пісьменнік, які ўсё жыццё не паддаецца плыні часу, не шукае лёгкага лёсу, а працуе, змагаецца за праўду і верыць, што дажыве да світання. Да светлага, добрага дня. Такі пісьменнік — гордасць нашай нацыі. Наша любоў і павага...

**ДАЖЫЦЬ ДА СВІТАННЯ... — Гэты сэнс праходзіць і праз усю творчасць Васіля Уладзіміравіча Быкава. Пісьменніка, Чалавека, Барацьбіта.**

Дарэчы, кожная зала выставы мае сваю каляровую гаму, але аб'ядноўвае залы белы колер, колер надзеі — «Дажыць да світання». І нам хочацца падзякаваць тым, хто падрыхтаваў гэтую цікавую выставу.

Аўтар навуковай канцэпцыі экспазіцыі — галоўны захавальнік музея Валянціна Анатольеўна Ціханавецкая. У стварэнні самой экспазіцыі прымалі ўдзел навуковыя супрацоўнікі аддзела фондаў музея Людміла Пятроўна Гараінава і Ніна Уладзіміраўна Гарэлік. Мастацкае ўвасабленне — мастака Генадзя Рыгоравіча Чыстага.

* * *

19 чэрвеня 1994 года... Дзень Святой Троіцы. У гэты дзень Васілю Уладзіміравічу — споўнілася 70 гадоў...

І хоць сыпаў дождж, у парк Янкі Купалы ішлі і ішлі людзі, Каб пабачыць Васіля Быкава, павіншаваць яго.

**Леанід КЛЫШКО.**



◆◆◆◆◆◆◆

**НА ЗДЫМКАХ:**

**Пісьмы з фронту Васіля БЫКАВА.**

**Кнігі — неўміручая спадчына народнага пісьменніка Беларусі Васіля БЫКАВА.**

◆◆◆◆◆◆◆




« Кнігарня »

— інфармацыйна-рэкламная газета. Выходзіць на беларускай і рускай мовах два разы на месяц.

Заснавальнікі: Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Савет дырэктараў выдавецтваў, кнігагандлёвая фірма «Белкніга».

Адрас рэдакцыі: 220600, г. Мінск, пр. Машэрава, 11. Пакой № 1106.



Галоўны рэдактар Т. П. ДЗМІТРУСЕВА.

Газета надрукавана афсетным спосабам на Мінскай паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» МВПА імя Якуба Коласа.

(1220079, г. Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3).

НУМАР ПАДПІСАНЫ ДА ДРУКУ Зак. 1289.

1.07.1994 г. у 15 г. Індэкс 63864.

Тыраж 2000 экз.